# Самапомач Samapomač

Беларускі папулярна-гаспадарскі часапіс

„SAMAPOMACZ“

Rok VIII. Wilno, Kwiecień 1939 r. № 4 (90).

Год VIII. Вільня, Красавік 1939 г. № 4 (90).

*Аб чым піша «Самапомач»:*

| | | бач. |
|---|---|---|
| 1. | Старое на новы лад . . . | 26 |
| 2. | Гаспадарка на выпадак вайны | 27 |
| 3. | Jašče ŭ spravie pierachodu na chutary . . . . . . . . | 27 |
| 4. | Абмылкі пры гадаваньні раньняе бульбы . . . . . | 28 |
| 5. | Гадуйма іоргіні . . . . . | 29 |
| 6. | Ziamielnyja paradki ŭ Litvie . | 29 |
| 7. | Сажа ў гаспадарцы . . . . | 31 |
| 8. | Гаспадарская хроніка . . . . | 23 |
| 9. | Чаго патрабуе зямля (ўкладкаІ-я) | |
| 10. | Сакрэт ураджаю (ўкладка ІІ-я). | |

Рэдакцыя і адміністрацыя: Вільня (Wilno), Завальная вул. 1.

# Старое на новы лад

*(У справе прымусовага арганізаваньня землияробскіх гаспадараак)*

Калі хто ў нас, перад усім у Віленшчыне, пасьля вайны гаварыў аб фаховай арганізацыі земляробства, дык думаў і прадстаўляў гэту арганізацыю выключна як дабравольную. І такія арганізацыі былі. Хто хацеў, мог да іх належаць і карыстаць. Але прымусу ня было.

Гэткі стан трываў больш-менш да 1935 г., калі паасобныя і найбліжэй „да аўтара" стаячыя асобы памалу пачалі гаварыць, што такая арганізацыя ў нас да нічога не давядзе. Бо сябры ейныя зацікаўлены ня тым, каб сяброў новых здабываць, як гэта на добры лад павінна быць, — але хутчэй тым, каб гэтых сяброў было менш. А выходзіла гэта стуль, што гэтыя быццам арганізацыі блізу цалком жылі на кошт казны і самаўрадаў, ці йнакш кажучы, з грошаў назьбіраных з падаткаў. А што пры падзеле падарунку ці спадку заўсяды выгадней, калі спадкаемцаў менш, дык ня дзіва, што ніхто надта іх і не стараўся.

Шукаючы выхаду з гэткага як-ні-як фальшывага палажэньня, некаторыя людзі дадумаліся, што лепш быццам будзе, калі фаховую земляробскую арганізацыю абаперці на вясковым самаўрадзе, на гміне. Коратка кажучы, з гміны, як асяродка прымусовай арганізацыі (да гміны належаць мусіць кожны!), думалі яны зрабіць асяродак земляробскай культуры, які ўсіх забавязваў-бы, ці хто-б гэтага хацеў, ці не хацеў.

Розныя вонкавыя прычыны характару палітычнага, калі не перакасавалі гэты другі, назавём яго гмінны, спосаб арганізацыі земляробства, дык на даўжэйшы хіба час прыпынілі. Затое на кругазоры зьяўляецца што раз выразьнейшы абраз **прымусовай** арганізацыі земляробства як такога ў цэлай Польшчы. Якія аканчальныя формы гэта арганізацыя прыйме,— сягоньня яшчэ трудна сказаць. Адно толькі пэўна: пад відам розных дабрадзействаў для земляробства гэты плян куецца і перакоўваецца ў тых палітычных перад усім (не гаспадарскіх!) установах, ад якіх сягоньня ўсё жыцьцё так ці гэтак залежа. Міжнароднае палітычнае палажэньне, усякія пагрозы і неспакоі, гэту працу над састаўленьнем пляну прымусовае арганізацыі земляробства падганяюць і прысьпяшаюць.

Як хто да гэтае справы адносіцца?

Лішне было-б зазначаць, што астаткі „дабравольных" арганізацыяў процi такога арганізаваньня прымусовага выступаюць усей сілай. Не сьпяшаюцца на спатканьне такога прымусу і людзі наагул больш-менш зьвязаныя з арганізацыямі, якія прызнаюць патрэбу свабоды. За прымус-жа ў арганізацыі земляробства стаяць перад усім тыя кругі польскага грамадзянства, якія сягоньня кіруюць жыцьцём палітычным — О.З.Н. — а гэта знача вельмі шмат. Каля гэтага-ж вогнішча снуюць і больш рызыкантныя абшарнікі, якія папраўдзе сунуцца ўсюды, каб толькі што-небудзь адтаргаваць у справе пагражаючай іхнім землям пар-

цэляцыі. Каб дапяць свайго, яны выдумваюць усякія страхі, а найбольш б'юць на тое, што як ня стане двароў, дык будуць галадаваць гарады і войска. А мяшчане нявраз гэтым байкам і вераць.

А што-ж аб гэтым мае думаць земляроб-Беларус.

Для беларускага селяніна справа способу арганізаваньня гаспадарак, пэўна-ж, мае значэньне і тут ён, калі яго хто слухаў-бы, дык заўсёды аддаў-бы свой голас за такую арганізацыю, каторай мог-бы **сам кіраваць,** а не падлягаць нейкім людзям прысланым. Але важнейшым яшчэ, чым спосаб гаспадараньня, — для беларускага селяніна ёсьць пытаньне: **на чым гаспадарыць?**

Прысьпяшэньне **парцэляцыі** сумежных маёнткаў і **неаграніччаньне правоў** пры абароце (пры куплі-продажы) зямлёў — вось сяготоньняшнія найшчырэйшыя гаспадарскія пажаданьні беларускага земляроба ў Польскай Рэспубліцы.



# Гаспадарка на выпадак вайны

Адным з законаў прынятых на спыненым апошнім паседжаньні польскага парлямэнту ёсьць **закон аб агульным абавязку даставы** (Ustawa o powszechnym obowiązku świadczeń rzeczowych). Закон гэты ўстанаўляе праўныя формы арганізацыі народнае гаспадаркі на выпадак вайны. Адначасна з гэтым закон прадбача прыгатаваньне гаспадарчага жыцьця да варункаў ваенных, а гэтым самым можа быць чынным і ў часе міру. Датыча ён усяго гаспадарскага жыцьця, а тым самым і **земляробства.** Паводле гэтага закону ўласьнікі і кіраўнікі гаспадарак павінны ў мірным часе на ўласны кошт даваць вусна і на пісьме розныя інфармацыі аб якасьці й колькасьці сваіх прадуктаў, аб месцы іх перахаваньня, аб стане прыдатнасьці і г. д. Гэта самае датыча ўсякага інвэнтара мёртвага (машыны, снасьць) і жывога (жывёла). Такі перапіс гаспадарак мае быць яшчэ ў часе міру.

Але закон прадбача ня толькі сьпісаньне таго, што ўжо ёсьць. Улады на падставе гэтага закону будуць магчы ў выпадку патрэбы загадаць гаспадару гаспадарыць так а ня йнакш, могуць наказаць вёсцы пайсьці на хутары, а нават перанесьці будынкі.

З днём управамоцненьня гэтага закону трацяць сілу: папярэдні закон аб

# Jašče ŭ spravie pierachodu na chutary

Što pad chutary padpadaje, a što nie padpadaje? Inšymi słovami, jakija ziemli mohuć być abniatyja planami pierachodu na chutary, a jakija ŭ hety plan mohuć być ułučanyja tolki z zhodaj ci ŭreścіe zusim z hetaha ŭlučeńnia vyklučanyja.

Zakon u hetaj spravie kaža, što pierachodu na chutary padlahajuć ziemli razdroblenyja i raskinienyja ŭ cierazpałosicy, z ziemlami inšych ułaśnikaŭ, šniury nadmierna daŭhija, a także h. zv. enklavy. Što pad usim hetym treba razumieć?

Cierazpałosica heta typovy šniur, što astaŭsia ŭ nas z časaŭ trochpaloŭki. Dalšym biazupynnym padziełam takich šniuroŭ jany zvužyvalisia. A zakon i kaža, što kali daŭžynia niŭki ŭ 15 razoŭ pieravyšaje jejnuju šyryniu, dyk takaja niŭka ŭžo ŭvažajecca nadmierna d o ŭ h a j i taksama padlahaje pierachodu na chutary, asabliva kali jšče časam i miežy takoha šniura taksama nia jduć pa prostaj linii, ale vykryŭlajucca ŭ formie litary S.

Ureścіe sprava enklavaŭ. Hetak nazyvajucca bolšyja ci mienšyja niŭki pałožanyja ŭsiaredzinie čužoha pola, što naleža da adnaho ci da niekalkich ułaśnikaŭ. Hetkaja enklava, choć-by mieła i vyhodnuju formu, to ŭsioroŭna chutaryzacyi padlahaje.

Nastupnyja katehoryi hruntoŭ možna ŭłučyć u plan chutaraŭ tolki na padstavie

# Абмылкі пры гадаваньні раньняе бульбы

Аб тым, што раньняя бульба добра аплачваецца, асабліва калі блізка знаходзіцца нейкі горад ці фабрычны цэнтр— кожнаму ясна. Дзеля таго скажам тут пару слоў аб галоўных абмылках, якія пры гэткай гадоўлі спатыкаюцца і каторых трэба высьцерагацца. З гэткіх абмылак маем на ўвазе дзьве: гадаваньне слабых расткоў і познае гнаеньне.

Раньняе пасьпяваньне бульбы залежа ад таго, што саджаныя бульбіны маюць ужо больш ці менш гатовыя расткі. Для дальшага росту такой бульбы важна, каб расткі гэтыя ня былі ані тонкія ані даўгія (найдаўжэйшыя 2-3 см.). Гэткія расткі могуць вырасьці толькі ў памяшчэньні сьветлым і ані за сьцюдзеным, ані за цёплым (ад 8 да 12°Ц); пры большай цяпліні расткі растуць лішне скора, а пры меншай — зусім не растуць. Найлепш укладаць такую бульбу да прарастаньня ў асобныя скрынкі зьбітыя з латаў; у скрынках гэткіх знаходзяцца 3—4 паліцы, на каторыя і ўкладаецца бульба празначаная да прарастаньня. Гэтак выгадаваныя расткі бываюць здаровыя, грубыя, не абломліваюцца і добра растуць.

Аб гнаеньні раньняй бульбы трэба ведаць, што такая бульба патрабуе *скора распускнога гною*. У тых гаспадарках, дзе гноіцца толькі хляўным гноем, трэба даваць пад раньнюю бульбу толькі гной добра перапрэлы і ўвосені йшчэ заараны. Гной сьвежы раскладаецца паволі і бывае гатовым да выкарыстаньня толькі ў м-цы ліпні, калі раньняя бульба ўжо бывае сабрана з поля і прададзена. Акрамя хляўнога гною раньняя бульба вельмі любіць і потасавую соль, якой на гэктар даецца ад 200 да 300 клг. Раньняя бульба на самым толькі сьвежым, неперапрэлым (саломістым) гнаі не ўдаецца.

*С. Я—віч*

---

даставах ваенных 24.X.34, а так-жа артыкулы 80—82 распараджэньня Прэзыдэнта П. Р. з 22.III.28 аб лекарскіх установах.



*Хай злыдні над намі*
*скрыгочуць зубамі:*
*Любі сваю ніву, свой край.*
*І, колькі ёсьць сілы,*
*да самай магілы*
*Ары, барануй, засявай!..*

*ЯНКА КУПАЛА.*



---

piśmiennaj zhody ŭłaśnika, dadzienaj pry śviedkach i zaćvierdžanaj adpaviednymi ŭładami: 1. Hrunty pad budynkami i panadvorkami, heta znača, što nikoha nia možna zmusić pieranasić budynki na pryznačany jamu chutar; chutar moža stajać sabie, a budynki — taksama sabie. 2. Hrunty raspałožanyja ŭ hranicach horadu (miesta) i takim čynam majučyja charaktar budaŭlanych placoŭ. 3. Hrunty, katoryja chavajuć u sabie tyja ci inšyja mineralnyja bahaćci, a tak-ža hrunty pad stajačymi vodami, służačymi dla promysłu ci dla rybałoŭstva, kali-b komasavańnie ich pryniasło ułaśniku škodu. 4. Sady i aharody, adpaviedna zahaspadaravanyja, parki i źviaryncy. 5. Vinahradniki i chmialarni, jakich ahulnaja płošča nia mienšaja čećvierci hektara (2500 kv. m).

Ad skomasavańnia vyklučany:

1. Planova zahaspadaravanyja lasy. Adnak pry kasavańni enklavaŭ možna ŭklučyć u komasacyjny plan i adpaviedniuju kolkaść takoha lesu. 2. Hrunty z kamieniałomami ci kapalniami takich minerałaŭ, jak vapieńnik, gips, piasok i inš., kali jany planova tam vydabyvajucca ci choć-by na karotki čas nia byli čynnymi. 3. Hrunty, na jakich znachodziacca hutv i horničnyja zavody. 4. Hrunty z skarbami padziemnymi, a tak-ža naftovyja krynicy, kali jany tolki ŭžo ŭłaśnikam vykarystoŭvajucca (eksploatujucca), a nie łažać biazčynna. 5. Urešcie prastory, na jakich znachodziacca historyčnyja zabytki abo architektoničnyja pamiatki ci asablivaśći natury, siamiejnyja hrabnicy i h. d.

inž. J. Ł.

а колькі непатрэбных і шкодных іншых дамешак, напр. зямлі, пяску, мякіны, насеньня пустазельля, або дамешкі насеньня іншага гатунку, напр. жыта ў пшаніцы. Такое абліčаньне мае вельмі вялікае значэньне пры ацэнцы насеньня на пасеў, бо дамешкі гэныя зьмяншаюць і абязцэньваюць ураджай. Кантрольныя сельска-гаспадарскія станцыі залічаюць да нячыстага таксама такое насеньне, каторае ўжо па самым выглядзе можна ўважаць за няпрыдатнае да пасеву, напр. пераломанае пры малацьбе.

На пробу чысьціні бярэцца, залежна ад вялічыні насеньня, 25 да 350 грамаў (два з палавінаю да 35 дэка) насеньня з розных мясцоў мяшка, ці скрынкі, кубла. Адважанае насеньне высыпаецца на белую, чыстую паперу і ўважна перабіраецца, знача аддзяляецца:

1. цэлае, добрае насеньне,
2. насеньне ўсякага пустазельля,
3. гарох, мякіну, пясок і г. д.
4. чужыя дамешкі (напр. жыта ў пшаніцы).

Па перабраньні насеньня, кожная кучка асобна важыцца і абліčаецца працэнт нячыстаты, усей разам, а асобна колькасьць насеньня пустазельля. Калі на пробу ўзята было 5 дэка (50 грамаў) насеньня, а ўсіх дамешак разам было 3 грамы, дык гэта знача, што ў насеньні на пасеў ёсьць тры працэнты нячыстаты а 97 працэнтаў чыстага, адборнага насеньня. Калі-б у пасеўным насеньні было шмат дамешак насеньня пустазельля, тады можна адважыць яшчэ кожны гатунак пустазельля асобна і гэтак перакананца, як сільна было поле занячышчана і якім паймення пустазельлем.

Асабліва трэба вызначыць колькасьць насеньня пустазельля, шкоднага для здароўя людзей, або таго, што надзвычайна хутка размнажаецца і праз гэта вельмі шкоднае для ўраджаю жаданага насеньня. Трэба добра прыглядзіцца, ці насеньне не заражана жучком — даўганосікам (ваўчком). Каб адшукаць яго, паступаюць гэтак: на зярнё наліваецца вада і пры-



4. Чарназёмы, таму што з прыроды сваей багатыя, патрабуюць толькі томасыны, калі хочам выгадаваць цяжкае збожа.

5. Лёгкія землі гліняста-пескавыя звычайна вычэрпаныя з азоту і таму трэба ім паддаць салетры, а таксама томасыны. Салетры 60—100 клг., а томасыны 400 клг. на гэктар.

**Сенажаці** блізу ўсюды трэба гнаіць каінітам (800 клг.) і томасынай (400 клг. на гэктар).

**Квасныя землі**, на якіх расьце гуголь і шчаўё, трэба асушваць капаньнем равоў і вапнаваць разсейваючы на га 800—1.600 клг. паленай меленай вапны. Таго самага дня разсееную вапну трэба прыараць або прыбаранаваць, каб не замокла, бо тады зямля магла-б сьцьвярдзець.

Безпасярэдна прад бульбай вапнаваць ня добра. Ня можна таксама мяшаць вапны з хляўным гноем, бо вапнай гной спальваецца.

## Аканчальная навука

Пад канец выходзіць, што гаспадар павінен добра пазнаць сваю зямлю, даведацца, чаго ей не хапае і так яе пагнаіць, каб расьліна ніколі не бядавала. Таму трэба:

1. Добра берагчы хляўны гной.
2. Прыкупліваць па крысе гной штучны.
3. Ужываць гнаёў зялёных.
4. Усе гаспадарскія адпадкі ўжываць на кампост.

## Кантрольныя пытаньні

Дайце цяпер адказы на гэткія пытаньні і пераканралюйце сябе, ці добра адказалі:

1. Якія тры галоўныя спажывы патрэбны для расьліны?
2. Дзе знаходзіцца азот, фосфар і потас?
3. Як азот вандруе сьветам?
4. Што такое матыльковыя расьліны і чаму яны важны?
5. Чаго не хапае пескаватай зямлі? А чаго звычайна ня маюць землі глінястыя?
6. Калі кажам, што зямля квасная,—як тады яе паправіць?
7. Чаго хочуць тарфяністыя глебы?
8. Чаго трэба лёгкай гліняста-пескавой глебе?
9. Як вапнаваць зямлю?
10. Чаго найбольш ёсьць у гнойнай жыжцы (мачы)? Як зьбіраць гнойную жыжку?
11. Чаму гной трэба зар'з прыараць?
12. Ці добра вывозіць гной на кучкі?
13. Чым угнойваць сенажаці?
14 Ці можна вапнаваць зямлю пад бульбу?
15. Як ловяць азот з паветра ў фабрыках?
16. Ці патрэбны потас глінястай зямлі?

---



расла, ці ў часе росту не нападалі на яго шкоднікі і хваробныя грыбкі. Стан здароўя пазнаем паводле колеру, смаку, запаху, вогкасьці ці сухасьці, ды паводле хваробных азнакаў. Пробкі насеньня найлепш разглядаць на сіняй паперы, якая добра адбівае колер насеньня й ягоны выгляд.

Высяваць трэба канешна насеньне цалком здаровае, бо калі будзем высяваць насеньне падазронай якасьці, або хворае ці заморанае, дык з такога насеньня вырастае слабая й хваравітая расьліна, а зародкі грыбковых хваробаў, як цьвіль, сьнежная плесьнь, пасмаватасьць ячменю, спрычыняюць хваробы ў патомстве ды пераносяць гэтыя хваробы і на насеньне, якое паходзіць з расьлінаў здаровых. Такім чынам колькасьць хворых расьлінаў можа пабольшывацца з году на год і гэтак зьменшываць ураджай ды пагоршываць ягоную якасьць.

Аб тым, ці зярнё ёсьць сьвежае й здаровае, можна пераканацца, калі глядзець на яго праз павялічваючае шкло. Здаровае зярнё на перакрою павінна быць белае й мучністае, без якіх-небудзь плямак, або жылак, без матовых зьбітых зярнятак. У жыце на перакрою павінны быць хораша бліскучыя кропачкі, якія паказваюць, што ў зярняці ёсьць шмат цэннай мучыцы „глютэн.“ На пробку трэба ўзяць больш зярнят — якіх 50 штук — і на падставе большасьці аднолькавых азнакаў ацэньваецца цэласьць. Ёсьць спэцыяльныя апарацікі для такой пробы, гэтак званыя нажы Гобба. Ужываюць іх купцы збожам.

**4. Чысьціня.** Па нашых гаспадарках рэдка калі спатыкаем чыстае насеньне. Звычайна яно бывае нават вельмі сільна занячышчана. Найгоршай прымешкай у насеньні на пасеў ёсьць насеньне рознага пустазельля. Чым большая чысьціня насеньня, тым большая ягоная вартасьць. На вока ацаніць чысьціню насеньня ня можна. Канешна трэба зрабіць пробу, колькі ёсьць насеньня праўдзівага,

не харошае, поўнае, мае адпаведную форму (выгляд), з напятай, непаморшчанай луской, роўнае і гладкае. У некаторых расьлінаў паморшчаная луска ёсьць азнакай сартовай прыналежнасьці, нпр. у цукровага гароху і цукровай кукурузы. Наадварот, паморшчанае насеньне, якое нармальна павінна быць поўнае і гладкае, паказвае, што яно сабрана перад поўнаю сьпеласьцю. Сільна паморшчанае насеньне звычайна да пасеву ўжо няпрыдатнае.

2. Вялічыня. Вялічыня насеньня залежа ад сорту і мае тады толькі практычную вартасьць, калі насеньне адначасна і адпаведна цяжкае. У вялікім насеньні ёсьць шмат пажыўных сучастак. Чым большае і паўнейшае насеньне высейваем, тым карысьней, бо будучая расьлінка мае даволі запасных кармавінаў у пачатках свайго разьвіцьця.

Мерымо вялічыню насеньня перасейваючы яго цераз некалькі спэцыяльна для гэтай мэты прыладжаных сітаў, якія маюць дзірачкі ў папярэчніцы ад двух да паўтраця мілімэтра (1 см. мае 10 мілімэтраў). Прад пробаю адважваем пэўную колькасьць насеньня і перасяваем. Пасьля рахуем, колькі насеньня асталося на кожным сіце асобна. Напрыклад: на 10 дэка насеньня, на першым сіце асталося 3 дэка, дык гэта знача, што 30 працэнтаў ёсьць насеньня на 2 мм (мілімэтры) грубога (вялікага).

Пры нармальнай пагодзе ў часе году і добрай якасьці насеньня, яно павінна мець што найменш гэткую грубіню: азімае жыта і залаціста-жоўты авёс грубы на 1.75 мм (адзін і тры чэцьверці мм), пшаніца-ярыца, белы авёс і азімы ячмень 2 мм., а азімая пшаніца і яравы ячмень*) два з палавінаю мм.

3. Стан здароўя. Стан здароўя насеньня залежа ад спосабу складаньня сабранага ўраджаю ды ад таго, ці з здаровага насеньня яно вы-

*) Ёсьць і ячмень азімы — А. К.



## Штд ёсьць у кніжцы


бач.

Чаму ў нас на сяле бяда . . . . . . . , . . 4
Чаго патрабуе зямля, каб добра радзіла . . . 7
Як азот вандрue сьветам . . . . . . . . 9
Як матыльковыя расьліны ўзбагачваюць зямлю? 11
Дзе йшчэ знаходзіцца азот? . . . . . . . . 13
Аб штучных азотных гнаёх і як іх высейваць . 14
Аб гнаёх фосфарных . . . . . . . . . . . 17
Потасавыя штучныя гнаі . . . . . . . . . 18
Пад акопнiны ды на пяскі і тарфянішчы потас канешна патрэбны . . . . . . . . 19
Чаму няраз зямля зусім ня хоча радзіць? . . . 20
Як трэба квасную зямлю вапнаваць? . . . . . 20
Чым угнойваць сенажаці, каб на іх добра расла трава? . . . . . . . . . . . . . . 21
Ці добра, калі хляўны гной вывозіцца на кучкі? 21
Хляўны гной трэба як найхутчэй прыворываць . 22
Як хадзіць каля гною ў гаспадарцы? . . . . . 22
Благі гаспадар аб гнаі ніколі ня дбае . . . . 23
Як рабіць гной на полі? , . . . . . . . . . 23
Якіх гнаёў патрабуюць нашы землі? . . . . . 24
Аканчальная навука . . . . . . . . . . . . 25
Кантрольныя пытаньні . . . . . . . . . . 26

# Што чытаць аб гаспадарцы?

З Беларускай Земляробскай Бібліятэкі:

**№ 1. Ziemlarobskaja čytanka.** Napisaŭ inž. ahr. Ad. Klimovič. Zbornik samastojnych artykułaŭ z usich halinaŭ ziemlarobskaj haspadarki (polnaja haspadarka, žyviołahadoŭla, haspadarka małočnaja, chatniaja, rybnaja, pčalarskaja i h. d.), sastaŭlenych pavodle poraŭ hodu: viasna, leta, vosień, zima. Bačynaŭ 144, Vilnia 1932.

**№ 2. Majovy chrušč i sposaby baraćby z im.** Napisaŭ M. Karalenka. Bač. 12, Vilnia 1935.

**№ 3. Асновы Земляробскай Эканомікі.** Напісаў інж. агр. Ад. Клімовіч (з друку выйдзе да канца 1939 г.).

**№ 4. Садоўніцкая чытанка**—ілюстраваны зборнік артыкулаў аб гадаваньні садовых дрэваў, аб даглядзе іх і абароне ад усялякіх шкоднікаў і аб спосабах ужыткаваньня самай садовіны. Праца колектыўная. Бачынаў 84, Вільня 1938 г.

**№ 5. Чаго патрабуе зямля?**— Кароткае вышсьненьне дзеля навукі маладым гаспадаром аб угнойваньні, з ілюстрацыямі. Напісаў інж. агр. В. Сазанскі. Бач. 26, Вільня 1939 г.

Апрача таго выданы:

**Матыльковыя расьліны** — перагляд і застасаваньне важнейшых матыльковых расьлін спатыканых у Беларусі. Напісаў інж. С. Бусел. Бач. 62, Вільня 1932.

**Пчолы** і як вадзіць іх у рамовых вульлях. Напісаў Я. Пачопка. Бач. 190+11, Вільня 1923.

**Малочная карова.** Як яе выбіраць, карміць і даглядаць. Напісаў Я. Пачопка. Бачынаў 84. Вільня 1928.

**Leki na ździeki.** Papularny narys kooperatyŭnaj samapomačy. Napisaŭ inž. Ad. Klimovič. Bačynaŭ 32, Vilnia 1932.

*Насеньне белай канюшыны* драбнейшае, колеру чырвона-жоўтавага (канаркавага) з памаранчавым адценкам. Старое насеньне мае колер брунатны.

*Насеньне шведзкай канюшыны* крыху драбнейшае ад насеньня канюшыны чырвонай. Мае форму яйка, з вострымі кончыкамі. Здаровае, сьвежае насеньне мае жоўтава-зялёны або цёмна-аліўкавы колер.

Старое насеньне розных канюшынаў нясумленныя гандляры насеньнем „адмаладжваюць“ абкурываючы дымам серкі, каб надаць зярняці сьвятлейшы колер. Такое насеньне можна пазнаць па серкавым запаху.

*Насеньне люцэрны* мае падаўгаватую форму. Сьвежае насеньне мае колер лускі жоўта-брунатны, а старое становіцца цёмна-брунатным.

*Насеньне буракоў* мусіць быць чыстае, зусім аднастайнае што да вялічыні і колеру і непашкоджанае пры малацьбе (непаперабіванае).

### Б. Спэцыяльная ацэнка

Пры ацэнцы насеньня бярэм пад увагу ягоныя *нутраныя і вонкавыя* прыметы (азнакі).

Да *вонкавых прыметаў* залічаем: выгляд (форму), вялічыню (грубіню), стан здароўя (непашкоджанасьць), чысьціню, полыск, колер, запах, цьвёрдасьць і ўрэшце смак.

Да *нутраных прыметаў* залічаем: здатнасьць і энэргію (сілу) прарастаньня, даўнасьць (век), сартовую прыналежнасьць і праўдзівасьць паходжаньня насеньня ці садзьбы, далей—ступень вогкасьці (сырасьці), вагу і агулам гаспадарскую прыдатнасьць.

Вонкавыя прыметы пазнаем зрокам, смакам, нюхам, дотыкам. Нутраную якасьць насеньня можна пазнаць пры помачы разбору на хімічныя складнікі, што ў навуцы называецца аналізаю.

1. Выгляд. Выгляд (форма) насеньня паказвае, што насеньне сабрана было зусім дасьпелае і што вырасла ў добрых умовах. Такое насень-

*Зярнё аўса* павінна быць вялікае і цяжкае, залежна ад сорту, менш ці больш выпаўненае мукою. Павінна мець полыск. Авёс, які змок, траціць свой полыск і становіцца матовым. Сарты з сьветлаю лускою становяцца шэрымі, а залаціста-жоўтыя — чырванеюць або становяцца шэра-жоўтымі. Колер лускі можа быць белы, шэры, або залаціста-жоўты. Чым цянейшая луска, тым лепшы сорт.

*Зярнё проса* здаровага павінна быць брунатна-чырвонае.

*Зярнё кукурузы* бывае рознай вялічыні, залежна ад сорту. Колер лускі вельмі рознаякі, можа быць белы, жаўтавы, залацісты, чырвоны, брунатны, а часам і чорны. Здаровае зярнё ясна-бліскучае. Калі-ж зярнё кукурузы мае матавы полыск, дык гэта знак, што яно было перахоўвана ў вогкім месцы.

*Зярнё грачыхі*, калі яно запаўшае, дык гэта знак, што яно беднае ў запасныя кармавіны, а тымсамым і няпрыгоднае да пасеву.

*Зярнё гароху да ежы* мае няправільныя формы, часта бывае запаўшым або паморшчаным. Луска можа мець шэры, брунатны, а часам і рабы колер. Калі трапіцца гарох, які мае мець зярнё гладкае, а мае яго паморшчанае, дык гэта паказвае, што гэты сорт гароху ўжо вырадзіўся, або што гарох быў без пары сабраны. Гарох не павінен мець на лусцэ белых плямкаў, бо гэта быў-бы знак, што на такі гарох напалі хваробныя грыбкі. Добры і сьпелы гарох павінен мець сьвежы, здаровы, яму ўласьцівы запах. Таксама павінен быць аднастайна вялікім. Луска зярнят мусіць мець матавы полыск.

*Насеньне чырвонай канюшыны*, здатнае да пасеву, мусіць быць поўнае, цяжкае і бліскучае. Луска мае мець колер бледна-жоўты, з фіялетавым адценкам. Калі-ж насеньне матавае і зусім жоўтае, дык гэта канюшына без пары сабрана, калі йшчэ была нясьпелай. Старое насеньне пазнаецца па колеры каштановым, або чырвоным.



БЕЛАРУСКАЯ ЗЕМЛЯРОБСКАЯ БІБЛІЯТЭКА

№ 6

# САКРЭТ УРАДЖАЮ

або

## ЯКІМ НАСЕНЬНЕМ ЗАСЯВАЦЬ І ЯК ЯГО НА СЯЎБУ ЗАГАТАЎЛЯЦЬ

Напісаў Інж. В. Б.

*Зьбеларушчыў А. К.*



Бязплатны дадатак да „Самапомачы“

ВІЛЬНЯ — — — — — — — 1939

Białoruska Drukarnia im. Fr. Skoryny, Wilno, ul. Zawalna 1—2.

## III. Як ацэніваць насеньне і садзьбу

### А) Агульная ацэнка насеньня некаторых расьлінаў

Ужо з самага выгляду насеньня гаспадар можа адрозьніць здаровае й добрае насеньне ад насеньня горшай якасьці, хворага, недаразьвітага, або насеньня іншага сорту. І так:

*Зярнё пшаніцы* павінна быць кароткае, грубое, пукатае, з далікатнаю лускою і з мелкім раўчуком. Луска пшаніцы павінна мець колер бледна-жоўты, аж чырвоны, залежна ад таго, ці іншага сорту. Чым глыбейшы раўчук і грубшая луска, тым прасьцейшы сорт збожа. Плыткі раўчук, тоненькая і гладкая луска, скрозь добра выпаўненая мукой, гэта азнака добрай якасьці насеннага зярняці, ня толькі ў пшаніцы, але й наагул ва ўсіх зярнавых збажавінаў.

*Зярнё жыта* звычайна бывае падаўгаватым. Колер лускі можа быць жаўтаваты, брунатны, але найчасьцей зеленкаваты. Жаўтавы або брунатны колер жытняга зярняці, калі ня ёсьць азнакаю асобнага сорту, дык паказвае на тое, што жыта было неадпаведна сабрана, або што зярнё недаразьвітае. Шэры колер жытняга зярняці, без зеленкаватага адценку, паказвае, што такое жыта сабрана было падчас непагадзі. Прычынай такога колеру лускі часта можа быць ейная празьмерная грубасьць. Калі напр. на ссыпцы (у сьвірне, у клеці) ёсьць празьмерная сырасьць, дык у зярняці настаюць перамены запасных матар'ялаў, а праз тое колер лускі зьмяняецца на цёмна-шэры або ярка-брунатны.

*Зярнё ячменю* (бровarскага і млынарскага) павінна быць кароткае, пукатае, колеру цямнейшага. Уласьцівыя для ячменю моршчыны павінны быць папярэчны.

## II. Чаго вымагаем ад насеньня і садзьбы

Насеньне мусіць быць *адборнае*, г. зн. цяжкое, *здаровае, сьвежае, непашкоджанае і чыстае*. Далей — яно павінна адзначацца вялікаю адпорнасьцю проці хваробаў і зьменных варункаў пагоды. Насеньне мусіць мець вялікую сілу і энэргію да прарастаньня (усходлівасьць) і моцны рост. Добрае насеньне павінна даваць высокі і якасны, гэта знача вартасны, ураджай.

Падобна і садзьба*) мае быць зусім здаровая, непашкоджаная, сярэдняй велічыні. Бульвы не павінны мець шмат вочак і вочкі гэтыя павінны быць няглыбокія. Калі вочак на бульве шмат, дык з яе, праўда, вырасьце шмат расьлінак, якія аднак будуць мець мала дробных бульбінаў. Акрамя таго бульвы павінны быць сухія і крыху прывялыя.

На адборнасьць насеньня і садзьбы кожны гаспадар мусіць зьвярнуць асаблівую ўвагу, бо з такога насеньня й садзьбы расьліны прарастаюць і растуць з збольшанай энэргіяй, а тымсамым расьлінкі добра закарэньваюцца і становяцца больш адпорнымі на ўсякія жыцьцёвыя нявыгады.

---

*) Садзьба гэта тыя разродныя часьці, якія садзяць, а ня сеюць.



## Уступ

„Што пасееш — то' й пажнеш".
„Якое насеньне — такое й пакаленьне".
(Народныя прыказкі)

Ужо здаўна знаў народ наш, што толькі добрае насеньне ды пасеў выдае багаты й добры ўраджай. Вельмі простымі спосабамі стараўся наш гаспадар сеяць добрае, разьвітае зерне. Аднак, не распазнаўшы, як трэба, сакрэтаў нашай нянькі-прыроды, нават і пры стараннын даглядзе ня зьбіраў найвышэйшых ураджаяў. Яшчэ й цяпер, калі гаспадарская навука даволі дакладна прасьледзіла ўсе тайны жыцьця расьлінаў і паказала, як трэба працаваць для найлепшага росту тых якраз расьлінаў, нашы земляробы моцна трымаюцца даўнейшых спосабаў гаспадараваньня. А гэтых спосабаў ужо мала. З прычыны нястачы адпаведнае веды сялянства наша церпіць вялізныя матарыяльныя страты, бо напр. з гэктара чуць зьбірае 8—9q збожа і 80—100q бульбы, у той час, як вельмі часта на так родзячых землях можна зьбіраць найменш двойчы гэтулькі.

Каб асягнуць высокі ўраджай, трэба ня толькі добра абрабіць зямлю, дакладна й адпаведна яе ўгнаіць, але таксама *трэба канешна падабраць насеньне высокай якасьці*. Бо толькі добра разьвітае насеньне дае гаспадару поўную заруку харошага, багатага ўраджаю добраякаснага дабра.

## I. Як размнажаюцца гаспадарскія расьліны

Гаспадарскія расьліны размнажаюцца з насеньня і з бульвы (часта абмылкова называнай карэньнем). Насеньне паўстае з таго, што цьвет расьліны запыльваецца пылком пры помачы розных мух або ветру і тады з цьвету паўстае плод — завязка будучай расьліны.*) У гэтым плодзе знаходзіцца насеньне. Можа яно складацца толькі з аднаго зярняці, напр. паасобныя зерняткі збожа, або з некалькіх, схаваных у насеннай табольцы, напр. у буракоў.

Некаторыя расьліны акрамя насеньня размнажаюцца таксама і бульвамі, гэта знача наростамі на карэньні. Гэтыя бульвы, таксама як і насеньне, зьмяшчаюць у сабе завязкі будучай расьліны, а такжа запасы патрэбныя для разьвіцьця растка малодой расьлінкі, якая з бульвы толькі што прарасла. Напрыклад бульба размнажаецца з насеньня, якое вытвараецца ў ягадах з цьвету, але таксама размнажаецца і з бульвы. У першым выпадку (у 1-шым годзе) такая бульба з насеньня вырасьце бяз бульвы, каторая вырасьце ў наступным годзе. А з бульвы вырасьце цэлая расьліна.

Кожны плод складаецца з трох галоўных частак: 1. *абалонкі* (скуркі, шалупіны, лускі), 2. *кармовых запасаў* (мучністых, мяккіша), ды 3. *зародка* (зярняці, вочка, растка).

*Абалонка* ахараняе зародак, разам з кармовымі запасамі, ад вонкавага акружэньня, як ад: грыбкоў, бактэрыяў, розных шкоднікаў ды ад непрыязных уплываў пагоды (паветра). Абалонка бароне таксама зародак ад надмернага высыханьня і так захоўвуе ягоную жыцьцяздольнасьць.

*Кармовыя запасы* насеньня гэта першы корм выклюнуўшайся з насеньня расьлінкі і ейны прыродны запас вогкасьці (напр. бульва ў такіх расьлінаў, як бульба), аж да часу, пакуль расьлінка не ўкарэніцца і ня выпусьціць лісткоў. Тады прыймае спажыву (мінэралы і ваду) з зямлі і паветра.

*Зародак* спаўняе гэткія заданьні: утрымлівае род (сорт, гатунак), прадоўжываючы ягонае існаваньне. Зародак месьціць у сабе найважнейшыя часткі будучай расьліны. У ім ёсьць карэньчык і расток, з каторага вырастае расьлінка і разьвіваюцца сьцябло і лісточкі. Спачатку яны йшчэ вельмі малыя й слабыя і таму ня могуць самі здабываць патрэбную сабе спажыву. У гэты час жывуць і разьвіваюцца з таго, што зьядаюць запасы зложаныя ў насеньні. У вялікім і цяжкім насеньні гэтых запасаў ёсьць больш, чым у меншым і замораным. І таму якраз падбор высокавартаснага насеньня мае так вялікае значэньне.

---

*) Апыленьне ў расьліны гэта тое самае, што заплоджваньне ў жывёлы — А. К.

# Гадуйма іоргінію!

Масавы пераход на хутары, асабліва ў апошніх гадох, стаўся прычынай таго, што кругом хатаў нашых вельмі мала зелені. Пакуль вырастуць нова-засаджаныя дрэўцы і ягадныя кусты, з тым большай стараннасьцю трэба падумаць аб прыаздобленьні сялібаў прынамсі рознымі кветкамі. Адносіцца гэта да ўсіх, а перад усім да нашых кабет і дзяўчат.

Ёсьць шмат гатункаў розных кветак. Тут хачу ўспомніць аб аднэй такой кветцы-красцы, якую ў нас нават даволі шмат хто знае, але найчасьцей у аднэй толькі форме. Маю на ўвеце **іоргінію** (георгінію), інакш ведамую як **далія**. Вот-жа гэту іоргінію ў нас ведаюць пераважна толькі ў адным гатунку, як чырвоную і разьмерам ня большую за людзкі кулак. Зусім не пярэчу, што і гэты чырвоны гатунак ёсьць добрым; хачу аднак пры аказії зазначыць, што колераў іоргініі ёсьць значна больш, а калі гаварыць аб вялікасьці цьвету, дык ён напр. у такой іоргініі голяндзкай даходзіць у папярэчніцы да 30 см. (блізу поўаршына). Але гэта толькі „між іншым." Пагутарым больш аб спосабах гадаваньня іоргініі.

Іоргінія гэта далёкая, заморская расьліна-краска. Ейнай бацькаўшчынай ёсьць Мэксыка (у Паўн. Амэрыцы). Стуль яна прынясла з сабой упадабаньне да глебы, вогкасьці, цяпла, сонца і г. д. Да ўсяго гэтага іоргініі мала пераборлівыя, зямлі лішне добрай не вымагаюць, любяць аднак дастатак вогкасьці і сонца; таму ня трэба іх садзіць з поўначы нейкага будынку.

Ёсьць тры спосабы размнажаньня іоргініі: насеньнем, флянсамі і карэньнем. — Насеньне іоргініі высейваецца ўжо пад канец сакавіка. Атрымоўваецца з гэтага блізу заўсяды пустацьвет, усярэдзіне колеру жоўтага або бронзавага. — Хочучы размнажаць іоргінію флянсамі, паступаюць гэтак: у м-цы сакавіку ўжо высаджваюць у інспэкт захаванае з папярэдняга году карнявішча іоргініі. Калі вырастуць з гэтага расткі на 15 см. (паўтары далоні), дык найсільнейшыя з іх выбіраюцца і выламываюцца разам з пяткай. Лісты пры гэтым абрываюцца, з вынятакам двух верхніх; сашчыпліваецца так-жа й вяршок. Гэтак прыгатаваныя флянсы перасаджваюцца ўзноў у ін-

---

# Ziamielnyja paradki ŭ Litvie

Šmat pryčyn złažyłasia na toje, što Litva choć i małoje-haspadarstva, to adnak žyćcio svajo tak zdarova patrapiła naładzić, asabliva ŭ halinie sielskaj haspadarki, što stanovicca prykładam dla šmat inšych narodaŭ, bolšych, niezaležna ad taho, ci jany žyvuć z joj u zhodzie ci navat časam i mocna-mocna spračajucca. Dokazam hetaha jošć hołas polskaha ekanamista D-ra B. Dederko, jaki ŭ hetaj spravie apublikavaŭ anahdaj*) abšyrnuju pracu p. n. „Rolnictwo w Litwie." Z całaści hetaj vielmi cennaj pracy abznajomimsia tut krychu tolki z 1-šym addziełam, u jakim apisany *ziamielny ład.*

Vot-ža z vyvadaŭ D-ra Dederko vychodzie, što ŭ Litvie jošć tolki vielmi mały lik drobnych haspadarak ad 1 da 5 ha, jakija zajmajuć usiaho 3,5 proc. (try z pałavinaj pracenty) ahulnaha abšaru ziemlarobskich užytkaŭ (53,5 tys. ha). Najbolšža ŭ Litvie haspadarak, što majuć ad 20 da 30 ha, jakija zajmajuć 19,1 prac. usich ziemlarobskich užytkaŭ. Kali złučyć u adno haspadarki, što majuć ad 15 da 50 ha, dyk akažycca, što hetkija haspadarki zajmajuć pałavinu (50 prac.) ŭsich užytkaŭ; a kali vierchniuju hranicu padniać da 100 ha, dyk takija haspadarki (ad 15 da 100 ha) zajmajuć abšar až 60 prac. usich užytkaŭ. Haspadarki bolšyja, jak pa 100 ha, zajmajuć tolki 6,6 prac., a haspadarki nižej 8 ha — tolki 10.3% ahulnaha abšaru ziemlarobskich užytkaŭ. Urešcie 21 tys. „haspadarak" u Litvie maje abšar nižej 1 ha: heta ŭłaściva nie haspadarki, a tolki rabotnickija i čynoŭnickija parceli, harodčyki i sady.

Hetki padzieł ziamielnaj ułasnaści ŭ Litvie jošć vielmi karysnym, jak dla samych ziemlarobaŭ, tak i dla całaha kraju. Pačatak urehuloŭvańnia ziamielnaha ŭładańnia ŭ Litvie (u značeńni histaryčnym, a znača i ŭ Biełarusi — *A. K.*) treba adnieści až da XVI-ha stah., da časoŭ ziamielnaj reformy karala Žyhimonta Aŭ-

*) U kvartalniku „Rolnictwo," tom IV, sšytok 1, hod X.

спэкты, з вогкай пяшчанай зямлёй і трымаюцца праз тыдзень. За гэты час флянсы павінны прыжыцць і тады іх узноў перасаджваем у вазоньнікі ці ў сумысьныя карытцы, у каторых і трымаем аж да м-ца мая ў наступным годзе; тады перасаджваем гэтыя краскі на агародчык, на месца сталае. Гэтак выгадаваныя флянсы звычайна бываюць вельмі здаровыя, сільныя, добра разьвітыя і пасьля багата цьвітуць.

Найчасьцейшы, бо найпрасьцейшы і таму найбольш пашыраны спосаб размнажаньня іоргініі—гэта пры помачы **карнявішча:** перахаваны праз зіму клубок карэньня (карнявішча), у маі м-цы дзеліцца (разрываецца) ў тонкіх мясцох на колькі частак, так, каб у кожнай было колькі вочкаў. Часткі такія высаджваюцца адна ад другой ня менш як 80 см., а найчасьцей на адзін мэтр, бо іоргінія любіць кусьціцца. З некалькіх расткоў, якія па пару днёх вырастуць з гэтага карнявішча, выбраць трэба толькі 3, найбольш 4 найгрубейшыя, а рэшту абломліваюць. Тады гэтыя пакінутыя расткі хутчэй і мацней разьвіваюцца, а вырасшы—лепш цьвітуць. Зямлю ўвакруг такога кусьціка час ад часу трэба ўспульхняць, а калі суха, дык і падліць. Калі расьліна ўжо значна падыймецца, дык трэба яе падперці, бо яна крохкая і лёгка можа заламацца. Расьцьвіўшыя кветкі іоргініі ня можна доўга пакідаць на пні, бо гэта вельмі аслабляе самую расьліну; кветкі такія трэба зразаць дзеля прыгатаваньня з іх усякіх букетаў. На пні-ж пакідаюцца да адцьвітаньня толькі такія кветкі, якія прызначаны на насеньне.

Урэшце — памятаць трэба і аб годзе наступным, знача аб перахаваньні самага карнявішча. Як толькі першы прымаразак сьпячэ лісты і сьцябло іоргініі, сьцябло гэта трэба на 10—15 см. над зямлёй зрэзаць, у пагодны дзень асьцярожна выкапаць, перасушыць на сонцы і схаваць (прыкапаць) у сухі ад марозу забясьпечаны пограб.

Гадуйма-ж тады разумна кветку-краску. Больш будзе радасьці і ў жыцьці!

*В. К.*

*Да гэтага нумару далучаюцца разрахункоўвыя пераказы, якімі просім перасляць належную за „Самапомач“ падпіску.*

husta (1548—72), viedamaj, jak „Valočnaja Pamiera.“ Heta reforma była adnej z pieršych va ŭsiej Eŭropie i nadzialała sialanstva haspadarkami 1—2 valočnymi, a „putnych“ i „pancyrnych“ bajaraŭ, za ichniuju słužbu dla karala, haspadarkami ŭ 2—5 vałok. U paźniejšych viakoch, u XVII i XVIII, šmat hetych haspadarak razdrabiłasia. Ale ŭžo ŭ XIX v., za prykładam susiednich Prusaŭ, Litoŭcy samadumna nia tolki pierastali svaje haspadarki dalej dzialić, ale pačali ich łučyć, komasavać. Inakš kažučy, tady ŭžo ŭ Litvie pačaŭsia pierachod na chutary. I heta mieła ŭpłyŭ daloka paza miežami ŭłaścivaj Litvy, zhetul pajšła chutaryzacyja na ŭsiu tahačasnuju Rasieju. Vialiki j šyroki ruch pierachodu na chutary, jaki ŭ toj čas razharnuŭ u Rasiei ministr Stałypin, naradziŭsia —zaznačma heta jšče raz! — u Litvie: tut Stałypin mieŭ svoj dvor i tut biezpasiaredna bačyŭ, jakaja roźnica pamiž haspadarkaj u šniuroch i haspadarkaj na chutaroch. Roźnica heta była na hetulki zaachvočvajučaj, što Stałypin pačaŭ zavodzić chutary va ŭsiej Rasiei.

Vajna ŭstrymała hety pierachod na chutary. Jak tolki adnak vajna končyłasia i Litva stałasia niezaležnaj, dyk pierachod na chutary ŭznaviŭsia. Adnačasna pačaŭsia ciapier na šyrokuju ruku jšče ruch parcelacyjnych dvaroŭ, jakija i ŭ Litvie ŭ pieravažajučaj ličbie byli ŭłasnaściu ludziej nacyjanalna čužych: Rasiejcaŭ, Palakoŭ, Niemcaŭ i h. d. Z hetaj pavajennaj parcelacyi najbolš skarystali haspadarki z abšaram 2—20 ha. Inakš kažučy, z parcelacyi nie tvarylisia haspadarki drobnyja, nia zdolnyja da samadziejnaha žyćcia, ale ziamla z parcelavanych dvaroŭ išła na pryrezku i ŭzmacavańnie ŭžo isnujučych haspadarak słabiejšych. A kali i tvarylisia z parcelacyi haspadarki zusim novyja, dyk jany ŭžo zhary byli tak abdumanyja, kab byli davoli silnyja.

Silny ahułam pierachod na chutary nia jość roŭnym va ŭsiej siańniašnaj Litvie. I heta zrazumieła, bo zachodnija akruhi ŭ vialikaj miery byli skomasavany ŭžo zadoŭha pierad vajnoj. Zatoje akruhi ŭschodnija, jak Paniaviež, Uciany, Kašadary Biržy, jakija prad vajnoj komasavalisia mienš, ciapier mieli što dahaniać. I dahnali, bo ŭ 1937 h. užo skroź byli skoma-

# Сажа ў гаспадарцы

Сажа ня ёсьць безкарысным адпадкам, бо яе можна выкарыстаць у гаспадарцы некалькімі спосабамі, асабліва, калі гэта сажа з печы топленай дрэвам а ня вуглём.

Наагул сажа выкарыстываецца як памоцнае ўгнаеньне, хоць з яе можна таксама прыгатаўляць напрыклад добрую замазку на залепліваньне вялікіх ран і дзюплаў у дрэвах (па роўнай часьці сажы, гліны й вапны, даліваючы вады і дадаючы вычасанай поўсьці з каня ці скаціны), або прадаваць у фабрыкі, што вырабляюць чорную фарбу. Сажу з печаў топленых каменным вуглём можна выкарыстываць толькі высыпаючы яе на кампост, бо так у ей ёсьць шкодная для расьліны серка. Але мы тут гаворым аб сажы з дзерава.

Вось-жа такая сажа можа быць цэнным гноем пад варыва (гнаіць увосень!), пад трускаўкі і пад кветкі, асабліва пад рожы. Запаранай і пасьля астуджанай сажай можна падліваць вазоны, а так-жа маладыя дрэўкі. Пасыпаюць так-жа сажай зялёную мураву (траўнік) і сенажаці; салодкая трава ад гэтага будзе буйна расьці, а пустазельле, мох і квасныя травы гінуць.

Ужываюць так-жа сажу як спосаб абароны проціў розных расьлінных шкоднікаў, як зямляная блыха, мшыца, і маладыя сьлімакі. У такіх выпадках сажа сыплецца на расьліны па расе ці па дажджы, каб мацней трымалася. А калі няма ні аднаго ні другога, дык расьліны паліваюцца спачатку зімнымі памыдлінамі, а пасьля пасыпаюцца сажай.

Сажа ўжываная як гной не павінна быць сьвежай, але добра адлежанай. Таму сажу ня можна выкідаць, але старанна ссыпаць у шчыльную скрынку ў сухім і забясьпечаным месцы.

---

*ЧЫТАЧЫ І ПАДПІШЧЫКІ!*

*Памажэце нам зьбіраць новых чытачоў! Гадавая падпіска за 1 экзэмпляр з перасылкай — 3 зл., за 5 экзэмпляраў — 10 зл., за 10 экз. — 15 зл. Грошы прысылайце так, як паказана на апошняй бачыне часапісу ўнізе.*

---

savany na 70 prac. A ahułam abličajuć, što **ŭ 1940 h. usie haspadarki ŭ Litvie buduć skomasavany.** Kali dadać da hetaha, što litoŭski zakon ab komasacyi nie pazvalaje pakidać budynkaŭ u vioskach, dyk abraz niedalokaj užo budučyni Litvy da hruntu budzie źmienieny: źniknuć zusim vioski, a ŭvieś kraj budzie pakryty haradami, miastečkami, fabryčnymi asiarodkami i biazlikimi adzinočnymi chutarami i chvalvarkami.

Urešcie kolki słoŭ ab arhanizacyi handlu Litvy.

Litva heta kraj vyrazna ziemlarobski. Navat lasami siahońnia pakryta tolki 14 prac. usiaho abšaru kraju. Tamu i vyvozie Litva pierad usim takija tavary, jak masła, miasa, usiakuju žyviołu, jajki, syry, rybu, pierje, skury, varyva, płady, nasieńnie, lon i ŭrešcie dreva, a pryvozić: žaleza, karasinu, vuhal, sierku i asabliva tkaniny. Palityka haspadarskaja Litvy kirujecca tym, kab uspamahać vyrab krajovy. Tamu napr. zabaronieny vyvaz z Litvy takich atruboŭ ci makuchaŭ, bo jany patrebny dla tannaj pradukcyi žyvioła-hadaŭlanaj (małočnaj).

Handal Litvy niezaležnaj, daŭniej i ciapier, škiravany pierad usim na Bałtyckaje mora. Tamu prymus zračeńnia Kłajpedy dla Litvy jość udaram vielmi silnym. Aprača Kłajpedy daŭniejšaja Litva handlavała praz Karaleviec(Königsbergi praz Ryhu) Haspadarskija znosiny Litvy z Polščaj (i z Rasiejaj) ažyŭlalisia tolki tady, kali Litva była ŭłučana ŭ skład hetych dziaržaŭ. Kali havaryć ab časach najnaviejšych, dyk apošnija 20 hadoŭ Litva z Polščaj aficyjalna nia mieła nijakich haspadarskich znosinaŭ. Pasiaredna adnak, praz Niamieččynu, Gdansk, Łatviju i praz „zialonuju hranicu“ išli z Litvy ŭ Polšč: tytun, lannoje siemia, skacina, švini, hryby i — polski(!) cukar. Zaznačyć pry hetym treba, što ŭ Litvie choć takoj napr. karasiny svajej zusim niama, a cukar pačali vyrablać tolki kolki hod tamu nazad, to adnak hetyja tavary tam taniejšyja, čym u krajoch, dzie jany vyrablajucca. I naahuł haspadarskaje žyćcio Litvy sarhanizavana adpaviedna da patrebaŭ kraju i ludziej, ci jak kažuć — pahaspadarsku.

Nia było-b usiaho hetaha, kali-b Litoŭcy nia byli haspadarami ŭ svajej chacie, kali-b nia mieli svajej niezaležnaści.

A. K.

Pierasyłka apłačana ryčałtam



# Гаспадарская хроніка

**Дзяржаўны бюджэт Польшчы** на 1939-40 год прадбача ў расходах агульную суму 2,525,908,560 зл., а ў прыходах 2,525,945,000 зл. — Падае гэтак закон (устава) скарбовы з 31.III.39 (Dz. U. R. P. № 27). Закон увайшоў у сілу 1-га красавіка сёл.

**Цэны на лён** у апошніх днях сакавіка значна падскочылі. Гэтак у Глыбокім, дзе за кілё сырца плаціліся звычайна ня больш 60 гр., цана гэта скочыла аж на 80 гр. Тлумачаць гэта агульным напяцьцем на сьвеце, а так-жа большымі закупамі прыездных купцоў.

**Фабрыка лянной пражы** ўжо заснавалася ў Бэзданах каля Вільні, у будынку, дзе нядаўна мясьцілася перанесеная ў Новую Вялейку мяльня і часальня лёну. Уласьнікам гэтай фабрыкі ёсьць прыватны польскі фабрыкант Лагутко. — Незалежна ад гэтага, ведамая фірма „Wspólnota interesów" за грошы Жыдоў з Нямеччыны праектуе заснаваць такую-ж вялікую фабрыку ў ваколіцах Новай Вялейкі або дзе ў іншым месцы Віленшчыны. — Урэшце ў Вільні паўстае таксама супалка купцоў на лён, якія так-жа мяркуюць заснаваць фабрыку лянной пражы ў ваколіцах тых-жа Бэзданаў (п-ле „Przegl. Handl.-Gosp.").

**Унутраную пазыку** на разбудову ваенных аэрапляанаў і процілалётнай артылерыі расьпісаў польскі ўрад 27 сакавіка сёл. На пазычку можна запісвацца выкупліваючы або 5-ці працэнтныя аблігацыі па 100 зл., або 3-х працэнтныя боны па 20 зл. Аблігацыі будуць сплачвацца ў парадку лёсаваньня праз 15 гадоў, а боны па 5-цёх гадох аднаразова. Падпіска на пазычку назначана ад 5 красавіка да 5 ліпня сёл.

**Налібакі коопэратызуюцца?** Налібакі і ваколіцы жылі нядаўна з мясцовай пушчы. Ад таго часу аднак, як пушчу ўжо дакончываюць высякаць, многа людзей траціць усякія заработкі. У гэткіх варунках паўстала там думка сарганізаваць сталярскую коопэратыву, якая выраблялa-б перад усім кухонную снасьць, ахвотна купляную між іншым у Англіі. — Праектуюць таксама надаць коопэратыўныя формы ўжо працуючым паасобку вытворцам усякіх трыкотажаў, а так-жа сарганізаваць коопэратыўную электроўню, млын і сушарню. — Хацелася-б бачыць усё гэта ў жыцьці. Маем аднак да гэтага паважныя сумлівы, бо: 1. усе гэтыя пляны не вырастаюць з сьведамай ініцыятывы самых заінтэрэсаваных, а 2. правядзеньне гэтых пляў у жыцьцё зразу апіраецца на чужых грашах. І адно і другое для коопэрацыі ёсьць чужым, а можа стацца нават шкодным.

**З чышчэньнем сяўбовага насеньня дрэнна.** На прасторы Віленшчыны і Наваградчыны ў 1938-39 г. былі 124 пункты чышчэньня сяўбовага насеньня. Большасьць гэтых пунктаў наракае, што людзі не дацэньваюць значэньня чышчэньня насеньня і пунктаў як належа не выкарыстоўваe. Якая гэтага прычына — ня ведаем. Баімося аднак, каб ня была тут на перашкодзе цана або йшчэ хутчэй,— ці гэтыя пункты асьветы гаспадарскай не ўзялі на сябе непасільны труд „променёваня".

**Рыбацкі курс** з паказамі спосабу лавеньня рыбы і рыбнай гаспадаркі, адбыўся ў Слоніме ў міжчасе 20—22 сакавіка.

**Сьцеражэцеся затрутых памаранчаў!** Газэты пішуць, што на рынках Польшчы паявіліся палестынскія памаранчы, якія падозраныя з таго, што яны затрутыя былі йшчэ на пні ваюючымі там процiў Жыдоў Арабамі. Гэткія выпадкі быццам сьцьверджаны былі ў Гамбургу. Дык сьцеражэцеся гэтых прысмакаў.

„Самапомач" выходзіць раз на месяц
ПАДПІСКА на „Самапомач": на год — 3 зл. Асобны нумар 30 грашоў. Пры выпісваньні на адзін адрэс прынамся 5-цёх экзэмпляроў — кожнага нумару на цэлы год — 10 зл., а 10 экз. — 15 зл. Цэны абвестак паводле ўмовы. Грошы перасылаць „разрахунковым пераказам" на картотэку № 40. Усякія пісьмы адрэсаваць у рэдакцыю: Вільня, Завальная 1.
Рэдакцыя адчынена штодзень ад гадз. 13 да 15.

Redaktor K. CZERTOWICZ
Рэдактар К. ЧЭРТОВІЧ

Wydawca: „BIEŁPRES"
Выдавец: „БЕЛПРЭС"

Białoruska Drukarnia im. Fr. Skaryny w Wilnie: Zawalna 1.
Беларуская Друкарня ім. Фр. Скарыны ў Вільні: Завальная 1.